Беларуская газета

sumezhzha

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...

Я.КУПАЛА



№ 14 (114) Заснавана ў 1991 годзе. травень 2001 г.

# ДАБРО МАЦНЕЙ УЛАДЫ ЦЕМРЫ

Пры ўездзе ў вёску Дунілавічы ў пералеску ёсць брацкая магіла, у якой было пахавана ў час другой сусветнай вайны каля тысячы яўрэяў. Жудасны лік ахвяраў нацыстаў быў бы яшчэ большым, каб не нашы суайчыннікі, якія зберaглі чалавечую годнасць,і з рызыкай для жыцця ратавалі уцікаўшых ад карнікаў людзей. Адной з іх, жыхарцы Пастаў Браніславе Урублеўскай-Зямчонак на днях у сталіцы, ў ліку чатырох беларусаў,сярод якіх Крысько Ірыне (пасмяротна) і яе сястры Даўгулевіч Ніне, Старавойтавай Надзеі і Андросіку Аляксандру (пасмяротна) быў уручаны дыплом і памятны медаль з прысуджэннем ганаровага звання “Праведнік народаў света”.

Уручаючы ўзнагароды Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Марцін Пеледа-Флекс ня змог прыхаваць свайго хвалявання і захаплення мужнасцю простых людзей. Як і ўсім у акрузе, сям’і Зямчонкаў, якія жылі на хутары Гараваткі, было балюча бачыць, як арыштоўвалі і зганялі ў гета нявінных людзей. Калі фашысты пачалі іх вынішчаць, цудам удалося спачатку схавацца ў руінах дома, а потым збегчы ў лес сям’і Гардонаў з двума дзеткамі 8 і 13 год. Бачучы, як ім нялёгка, гаспадар хутара Браніслаў Вікенцевіч, не спужаўшыся рэпрэсій , даў прытулак уцекачам у лазні.

Пасля іх хавалі ў хлеве, куды адна з дачок пад відам дойкі кароў, прыносіла ваду і ежу. Падзялілася беларуская сям’я і адзежай, абагравала, падтрымлівала, чым магла. Паколькі далей тут заставацца было рызыкоўна, разам вырашылі выкапаць у лесе зямлянку-схарон. Там гнаныя правялі восем месяцаў, атрымоўваючы ад сваіх выратавальнікаў усё неабходнае для жыцця. Восенню 1943 года іх вывелі ў партызанскую зону, дзе Гардоны прабылі да канца вайны.

Год назад у гэтых мясцінах пабываў з жонкай малодшы з сыноў Аўраам Гардон, зараз амерыканскі грамадзянін. На вачах міжвольна выступілі слёзы, калі памяць прывяла яго ў знаёмы лясны масіў. Асабліва ля той зямлянкі, якая на дзіва, збераглася да гэтага часу. Няма ўжо ў жывых бацькоў у гэтых абоіх сем’ях, а дабро



*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Марцін Пеледа – Флекс уручае дыплом і памятны медаль Ніне Даўгулевіч*

і праўда амаль праз 57 год і дагэтуль пануе над злачыннай уладай цемры...

Сама ўрачыстасць прайшла ў памяшканні Беларускага таварыства Дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі. Іграла музыка, усё было ўрачыста і прыгожа. Пасол цалаваў рукі ўсхваляваным лаўрэатам звання “Праведнік народаў свету”, гаварыў не па-пратакольнаму, ад шчырага сэрца. Спецыяльнага звання ўдастойваюцца па рашэнню камісіі Ізраільскага мемарыяльнага інстытута катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства з 1953 года. Рашэнне камісіі па выніках вывучэння матэрыялаў і паказанняў сведкаў падпісвае галоўны суддзя Вярхоўнага суда Ізраіля.

На памятным медалі адчаканены надпіс “ Той, хто выратаваў адно жыццё, выратуе ўвесь свет”. У нашай краіне за сем апошніх гадоў такіх гераічных людзей удалося адшукаць і аддзячыць ужо амаль 350. Ад гэтага часу і імя Браніславы Урублеўскай-Зямчонак навечна будзе занесена на Сцяну гонару ў Ізраільскім мемарыяльным інстытуце катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства “ Яд Вашем” (“Вечны помнік”).

***Уладзімір Шык***

## Забаронены колер

Сёлетняе майскае свята Перамогі на Пастаўшчыне, як ніколі раней, запомнілася сонцам, цяплом і бялюткімі ад квецені садамі. Райцэнтр упрыгожылі сцяжкамі і чырвонымі дзяржаўнымі сцягамі, для ветэранаў наладзілі ўлады прыём, мітынг-рэквіем і канцэрт. Але дзіўна было бачыць, як пераважалі ў святочным афармленні горада чамусьці зялёныя колеры – сімвалы мусульман. А вось белага колера нідзе не было, бо ў спалучэнні з чырвоным ён выклікае ў некаторых варожыя асацыяцыі. Дарэчы, калі некалькі гадоў таму па мясцовых касцёлах гасцявала фігурка Божай Маці Фацімскай, святары прасілі людзей, каб ні ў якім разе ні ў адзенні, ні ў сцягах, ні ў стужачках і нават кветках не прысутнічаў белы і чырвоны колер. Чамусьці такая сімволіка з сівой даўніны стала "ворагам", як і наш старажытны герб "Пагоня".

## Адключылі ад Расіі

Цяжка перадаць словамі гнеўную рэакцыю соцень пастаўчан, калі 8 Мая адключылі адразу тры расійскія тэлеканалы. Куды не пераключалі людзі кнопкі, усюды тарчала знаёмая галава, якая ў злосці абвясціла аб правядзенні буйных вайсковых вучэнняў на тэрыторыі Віцебшчыны напярэдадні выбараў новага прэзідэнта. Гэтая ганебная выхадка выхадка паплечнікаў Рыгоравіча паказала, што беларускім уладам проста напляваць на міжнародныя прававыя акты, законы аб СМІ і інтарэсы народа. Але такім чынам свайму патрону нарабілі толькі шкоды. Між тым паніку ў ягонай адміністрацыі выклікае той факт, што апытанне грамадскай думкі фіксуе рост негатыўнага рэйтынга Аляксандра Лукашэнкі. Відавочна, што многім гэты гаваркі лідэр надакучыў і на выбарах за яго гатовы прагаласаваць толькі тры з кожных дзесяці выбаршчыкаў.



## У падтрымку Сямёна Домаша

Мяркуючы, што кожны вечар з беларускага тэле і радыёэфіра не вылазіць кіраўнік дзяржавы, ён пачаў датэрмінова прапагандаваць сябе. Сем гадоў кіравання краінай бясслаўна заканчваюцца для Лукашэнкі, а Беларусь вярнулася да таго, з чаго пачынала – беднасці і стомленасці грамадства, як было пры Кебічу. Тым часам да прэзідэнцкіх выбараў рыхтуюцца і апаненты прэзідэнта. На Пастаўшчыне ўжо сфарміравана каманда прыхільнікаў Сямёна Домаша. Працаваць яна будзе пад дэвізам "ДОМаш – НАШ!" У адрозненне ад шклоўскага дырэктара кепскага саўгаса Домаш прайшоў сапраўдную школу жыцця і працоўнай загартоўкі Ён вырас ад аўтамеханіка да кіраўніка лепшай у Беларусі Гродзенскай вобласці, быў адзіным з рэгіянальных лідэраў, хто адкрыта выступіў супраць разбуральнай і правальнай палітыкі Лукашэнкі і ў ліку 70 дэпутатаў падпісаў заяву аб імпічменце (адстаўцы) прэзідэнта.

## "Свеціць" жыццё ў цемры

Проста не ведаюць у Глыбоцкім міжраённым аддзяленні прадпрыемства "Энерганагляд", што рабіць далей са сваімі даўжнікамі за электрычнасць. Колькасць такіх паўсюдна павялічваецца, а Пастаўшчына сярод суседзяў нават "выдзяляецца" сваім ростам запазычанасці за спажытую электраэнергію. Дрэнна плоцяць за паслугі практычна ўсе калгасы, за выключэннем "Дружбы" і імя Мічурына. Цяпер гэтую манеру пераанялі прадпрыемствы, вайсковыя часці, камунальная гаспадарка, школы раёна, якія не заплацілі кожны паасобку ад 6 да 250 млн. рублёў. Уга̀воры і пагрозы ўжо не дзейнічаюць. Таму вырашана неплацельшчыкам пакуль скараціць велічыню водпуску электраэнергіі на 25 і больш працэнтаў, па за яе перабор караць штрафамі кіраўнікоў. Калі і гэта не дапаможа, пастаўкі абмяжуюць да ўзроўню аварыйнай брані, а пры яе адсутнасці калектыў могуць адключыць ад электрасетак. Інакш заўтра можа быць яшчэ больш кепска, да прыкладу, як на ўскраінах Расіі, дзе пачалі жыць у цемры.

## Яшчэ адна афёра

Тое, што ў краіне паўсюдна крадуць, асабліва на вёсцы – даўна не навіна. Але калі ў ходзе расследвання крымінальнай справы па факце крадзяжу ядахімікатаў у калгасе "XXV партз'езд" выплылі іншыя факты, здзівіліся і аператыўнікі. Справа ідзе яшчэ на больш вялікую суму. Пакуль нельга паведаміць нешта больш канкрэтнае, бо праводзяцца следчыя мерапрыемствы. Толькі вядома, што "экспрапрыяцыяй" калгаснай маёмасці займаліся ў іншай гаспадарцы Пастаўшчыны. Паколькі на вёсцы амаль нічога не плоцяць за работу працаўнікам, нічога не застаецца ім, як старацца умыкнуць зерне, камбікорм, малачка. Інакш-проста не выжыць.

## Такі вось сумны рытуал

У нашай беднай краіне не толькі жыць годна немагчыма, але і правесці ў апошні шлях памерлага – процьма праблем. Не сакрэт, калі больш года назад праводзілі пахаванне загінуўшага ў аўтакатастрофе В.Чэпіка, труну для нябожчыка прывозілі з Літвы, а за кветкамі і вянкамі таксама пасылалі ганцоў у няблізкі свет. На месцы ў Паставах будынак цэха рытуальных паслуг райбыткамбіната зношаны да крайнасці – на сто працэнтаў. Між тым сядзяць тут без працы людзям не даводзіцца. Бывалі выпадкі, што за дзень забіралі па 5-6 трунаў, а за месяц такіх прыналежнасцяў адпускалі да сямідзесяці. Аднак нават пры напружанай дзейнасці страты цэха склалі летась 7,6 млн.рублёў. За савецкім часам рабочыя ўчастка па вырабу помнікаў зараблялі ў месяц да 400 рублёў, як сакратары райкама. Зараз заробкі тут нікчэмныя. Пры гэтым усе ведаюць, што труны і помнікі цяпер робяць і саматужныя майстры.

## Купюры новыя, праблемы – ранейшыя

Пакуль яшчэ лічаныя жыхары раёна бачылі ці трымалі ў руках новыя купюры беларускіх грошай вартасцю 10 000 рублёў. Маюць яны дачыненне да нашага рэгёна ў тым, што на вонкавым баку банкноты бачна панарама абласнога цэнтра з мастом цераз Дзвіну. На адваротным баку знаёмыя многім, хто ездзіў на пампезны музычны фестываль "Славянскі базар у Віцебску" і глядзеў канцэрты ў летнім амфітэатры, чыя выява адлюстравана на грашах. Тым часам у глыбінцы ўсё больш адчуваецца недахоп дробных купюр, асабліва рублёў. Зрэшты, яны зноў нічога не вартыя, адзін карабок запалак каштуе, як падлічыў адзін сталічны пенсіянер, цэлых 12 мільёнаў рублёў. За сем гадоў прэзідэнцтва, памятаеце, двойчы за дэнамінацыю адымалі ад рубля шэсць нулёў. Такога нідзе больш няма ў свеце, каб так шалёна скакалі цэны. А ў пастаўскіх крамах пакупнікі і прадаўцы ўжо не звяртаюць увагу, калі не хапае рэшты ці проста пару рубялькоў за пакупку. Не было ў свеце больш дурняў, каб згаджаліся насуперак Канстытуцыі краіны на ўвядзенне чужых расійскіх грошай.

***Рубрыку вядзе Уладзімір Шык***

××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××



**СПЫТАЕМ ДЗЯДУЛЮ МІКОЛУ**

На традыцыйнае пытанне напрыканцы красавіка аб тым, што турбуе, што выклікае роздум у гэтыя дні, дзядуля Мікола адказаў:

-А ведаеце, давайце пагаворым аб газетах. Тэлебачанне, акрамя добрых кінафільмаў, я асабліва не люблю. Там вельмі зашмат хлусні. І схлусяць – цяжка разабрацца. А хлусня ўжо ў цябе ўнутры засела. Газеты раней выпісваў ахвотна. Ды сёння яны не па кішэні. Так што выпісваю толькі "Пастаўскі край". Ды вашы хлопцы рэгулярна прыносяць ваша "Сумежжа". Вы любіце ўшчыкнуць "раёнку", ды і "раёнка" шчыкае вас. Ясна – вы ж канкурэнты. "Сумежжу" да "Пастаўскага краю" яшчэ далёка. Тая газета рэгулярная, з праграмай тэлебачання. Ну а вашу газету і здабыць у Паставах не зусім проста. Але вось што заўважыў. Раённая газета ў апошні час асабліва стараецца ўсё згладжваць. Асабліва пры жыццё на вёсцы. Пішуць у асноўным пра тое, што там шмат працавітых людзей. Правільна, шмат. Беларусы умеюць працаваць. Ды вось толькі што дае гэта праца? Нават зводкі аб ходзе работы ў калгасах рэдка сталі друкаваць. Відаць, няма чым хваліцца. Дык чаму б і не расказваць пра сапраўдны стан спраў. Хаця і між радкоў многае можна прачытаць.

Вось уважліва прачытаў я першую старонку "Пастаўскага краю" за 4 красавіка. Гаворка там ідзе пра веснавыя палявыя работы. Усё нібыта прыстойна. Але...

"З нарыхтаваных 225 тысяч тон угнаенняў на 31 сакавіка было вывезена 168,9 тысячы – на 30 тысяч менш, чым летась".

"У цэлым па раёне тэмпы ўнясення мінеральных угнаенняў значна ніжэйшыя, чым былі ў такі час летась."

"Гэтай вясной на 4552 гектарах трэба будзе правесці ворыва, што больш чым у папярэднім годзе... А ўсяго ў 13 гаспадарках раёна з восені не была ўзарана глеба пад яравую сяўбу."

"Намнога менш перабрана і бульбы."

Я былы селянін, але і не селяніну зразумела – справа дрэнная. У мінулым годзе яны таксама не ладзіліся, аб гэтым гаворыць і мінулагодні ўраджай. Значыць сёлета будзе яшчэ меншы. Бо адначасова і гной вазіць і столькі араць пад сяўбу – не па плячу калгасам. Ды і паліва тое ці будзе яшчэ. На гэтай жа старонцы рэкамендацыі па аплаце працы на сяўбе. Там ёсць такое:

"У сувязі з цяжкасцямі з адшуканнем грашовых сродкаў на выплату заработнай платы ў шэрагу калгасаў і саўгасаў рэкамендуем расшырыць практыку выдачы заработнай платай натурай (зернем, бульбай, жывёлагадоўчай прадукцыяй), пераафармленне яе на папаўненне маёмасных правоў (доляў), ці на вэкселі – дагаворы натуральнай аплаты з пагашэннем іх ва ўстаноўленыя тэрміны сельскагаспадарчай прадукцыяй, іншымі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, а таксама аказаннем паслуг.

Вось і дажылася вёска. Я помню тыя часы, калі мы ў калгасе за работу атрымлівалі так званыя палачкі. А ў канцы года на гэтыя палачкі выдавалі то зерне, а то і гірсу. І вось цяпер зноў. А як жа жыць чалавеку на вёсцы. Дзякаваць богу, наш вясковец яшчэ мае нейкую скварку, бульбіну. Ёсць што есці. Але ж без грошай не пражыць. А калі дзіця ў сям'і. Яго ж апрануць трэба, сшыткі – падручнікі купіць. За што? І яшчэ гэтыя паслугі. Выходзіць такі чалавек працуе ў калгасе, а яму потым гавораць: "Мы за сваю працу табе жыта на соткахзмалоцім – і ў разліку. Так? Дык гэта ўжо зусім вяртанне немаведама куды. Па тым жа тэлебачанні чуеш: дзяржаўныя камісіі ездзяць па абласцях, правяраюць своечасовасць выплаты заработнай платы. Караюць, прымушаюць плаціць. І нібыта з запазычанасцямі разлічваюцца. Маняць, атрымліваецца. Бо, бачыце, якія рэкамендацыі.

# ВЁСКА ПАДАЕ СІГНАЛ БЕДСТВА

## I. Чуеце сігнал бедства?

Вёска... Каб сабраць усе песні, вершы, лірычна-узнёслыя радкі, прысвечаныя ёй, атрымалася б шматтомнае выданне прыгожых паэтычных прызнанняў у любові.

"Деревня моя, деревянная дальняя...", "Вот брошу всё и отдохнуть уеду туда, где детство босоногое прошло...", "Мой рамонкавы рай...", "Дарагая старонка мая...", "Я сэрца пакінуў у вёсцы..." Толькі апошнія гады не чутна стала такіх вось прызнанняў песень. Усё часцей друкуюцца нават у дзяржаўных выданнях (не гаворачы ўжо пра незалежны друк), допісы з вёсак, пачытаўшы якія, думаеш: "Што гэта за жахлівая фантастыка такая, ці можа быць такое ў наш час?"

Я так не думаю. Я жыву ў вёсцы і з сваёй "вясковай званніцы" сцвярджаю – вёска на краі пагібелі. Яна падышла да бездані, аддаўшы, страціўшы ўсе свае сілы і без дапамогі ёй не выкарабкацца. Прычым, "вісіць" яна пад ухілам, развярнуцца назад, угару, цяжка, нязручна, замінае. Лягчэй уніз, у бездань.

Асмелюся сцвярджаць: вёска – калыска народа, калыска нацыянальнай культуры, тут, у вёсцы, жыве зародак, тлее вугольчык (як хочацца думаць) духоўнасці Нацыі. Гэта яна нараджае таленавітыя парасткі, песціць іх і ... аддае гораду. Паспрабуйце "капануць" карані радаслоўнага дрэва выдатных асоб Беларусі і вы ўбачыце: калі не сама асоба, то яе бацькі, дзяды ці прадзеды – вяскоўцы. Ролю вёскі ў гісторыі нашай Радзімы вызначыў каісьці З.Пазьняк у артыкуле "Эліта". Менавіта вёска пасля чарговай гістарычнай катастрофы, калі эліта беларускай нацыі знішчалася напрацягу 200-гадовай барацьбы за незалежнасць, давала народу новыя сілы, зберагала мову, звычаі, культуру, вёска ратавала Беларусь ад канчатковага знішчэння. Толькі дзякуючы ёй, мы яшчэ памятаем, што мы – беларусы. Так было заўжды, але ўсяму прыходзіць канец. І на сучасным этапе вёска больш не дапаможа, не здужае бяды. У яе няма для гэтага сілы. Дапамога патрэбна ёй, знявечанай, знямелай ад жаху, скаванай адчаем.

## II. Знявечаная...

Вёску знявечыў калгас. Калгасны лад знішчыў гаспадара-селяніна і ператварыў вяскоўцаў у статак, які ідзе за важаком, які падганяе пагоншчык. Прычым важакоў і пагоншчыкаў дрэсіруюць, і вядуць яны сялян куды ім загадаюць, зыходзячы з чарговага рашэння "з'езд партыі", "сходу саветаў", "сесіі" і г.д. А каб статак быў паслухмяным і не зварочваў са "светлага шляху", яго пояць. Удумайцеся ў лічбы. На кожнага працаздольнага ў Беларусі прыпадае 75 бутэлек моцных напояў і 60 бутэлек "чарніла" (саматужніцу падлічыць немагчыма). Статыстыка па вёсцы, калі існуе, то не абнародваецца, бо, магчыма становішча яшчэ горшае чым ведаю. Вёска ратавалася, як магла, праўдамі і няпраўдамі. Яна пасылала сваіх дзяцей вучыцца. Яна скарыстоўвала любую магчымасць ("вярбоўкі", "перасяленні", "асваенні цаліных зямель", "будоўлі веку"), як выратавальнае кола і ў выніку абяскрывела. У калісьці моцнай сялянскай дзяржаве сельскае насельніцтва зараз складае 31%, сярэдні ўзрост якога – 45 гадоў (у тым ліку 15% складае 70-гадовы ўзрост). І прасвету ў гэтым становішчы не бачна. Вёска памірае, больш таго, б'ецца ў агоніі. У сельскай мясцовасці нараджэнне дзіцяці стала незвычайнай падзеяй. Гэта і ёсць сігнал бедства знявечанай вёскі. Сігнал усім нам.



## III. Знямелая ад жаху...

Стадна-рабскі калгасны лад загубіў душу беларускага селяніна. Яна знямела. Дзесьці ў падсвядомасці генетычная памяць зберагаецца, таму вяскоўцы не пішуць калектыўных заяў аб закрыцці беларускіх школ, таму яшчэ гавораць у вёсцы на "трасянцы", у якой да 60% беларускіх слоў, таму чытаюць яны беларускамоўныя "раёнкі". Але калі іх дзяцей у райцэнтрах (у вёсках у асноўным базавыя школы) пераводзяць на рускамоўнае навучанне, яны маўчаць. Вёска знямела ад жаху перад поўным вынішчэннем. Вёска ў адчаі.

## IV. Скаваная адчаем...

Ніякія законы на вёску не распаўсюджваюцца. Яна заўсёды была бяспраўнай. За гады прыгнёту вяскоўцаў адвучылі спадзявацца на закон і яго абарону. І яна больш не здольна на пратэст. Скаваная страхам і адчаем, яна выпрацавала сваю "філасофію". Асноўны яе прынцып такі: "Было і горш, трэба трываць". Некаторыя фармуліруюць яго так: "Абы вайны не было". Сэнс адзін. Гэта "філасофія" тых, хто памятае раскулачванне, абавязковыя харчовыя падаткі (продналог), калі адбіралі ўласную маёмасць (па Канстытуцыі недатыкальную), хто памятае бязмежжа беззаконня: маглі "абрэзаць соткі" роўна вуглоў, не даць пашы летам і кармоў жывёле на зіму, брыгадзір мог уварвацца ў хату (ведаю выпадак, што і ў царкву) на Вялікадня або Каляды і прымусіць капаць гной. Пашпартоў вяскоўцам не выдавалі і ўцячы можна было толькі ў ГУЛАГ. А паколькі калгас нічым не адрозніваўся аб сібірскага (уфімскага, карэльскага) лагераў, выйсце было адно – трываць. Тым больш, што быў перыяд паслаблення (пры Брэжневе – вясковая назва перыяду) і сялянам здалося, што горшае ўжо прайшло. Аднаго яны не разумелі, што існуючыя парадкі разрывалі, знішчалі галоўнае – сувязь з зямлёй, сувязь неабходную, як паветра, гістарычную, дзякуючы якой селянін адчуваў сябе Чалавекам. Таму і "філасофствуе" зараз мая знаёмая (з былых пагоншчыкаў): "А вы пажывіце так, як мы жылі, тады будзеце ведаць колькі каштуе фунт ліха». І пералічвае ўсё беззаконне, якое было на вёсцы. Толькі ці было? Ёсць. Як жыве вёска зараз? Пра вёску ўспамінаюць толькі з нагоды пасяўной ды ўборачнай кампаніі. А як жа. Хлеб і да хлеба можна ўзяць толькі з вёскі. Менавіта ўзяць за бясцэнак, а не купіць па сабекошту. Узяць і "дажынкі" справіць. Ну яшчэ зімой напомніць калгасніку, што тэхніку да чарговай пасяўной рыхтаваць трэба. Толькі гэта неабходнасць хутка адпадзе сама сабой, бо зношанасць той тэхнікі складае ўжо каля 90%. Статыстыка не абнародуе, які заробак у калгаснікаў. Вы бачылі дзе-небудзь афіцыйна надрукаваныя дадзеныя заробкаў даяркі, механізатара, палявода, спецыялістаў калгасаў? Даецца сярэдняя лічба па сельскай гаспадарцы, уключаючы "гарадскую галіну" (ці не абсурд?) – раённых, абласных, рэспубліканскіх упраўленняў. Але нават у "сярэднім выглядзе" заробкі сяльчан на апошніх месцах. Ну і што? Камусьці і апошнім трэба быць, абы ён ногі валок. Наогул, уся эканамічная палітыка ў адносінах да вёскі была агучана ў праграме "Рэзананс" 19 лютага гэтага года: "Кроў з носу, а зрабіць" – вось і ўся палітыка. Апошняя ўстаноўка – узнавіць пагалоўе буйной рагатай жывёлы, выразанай у выніку бяскорміцы. І "прыём" эканамічны ўказаны дакладна: "Кроў з носу". І вы думаеце не будзе выкананы? Будзе! Дасылаю вам копію дамовы, якую прымушаюць зараз падпісваць калгаснікаў. Прачытайце ўмовы дамовы і вы пераканаецеся, што гэта прымус. Не падпішаш, не будзеш мець корму і пашы. А як селяніну жыць? За свае заробкі (або пенсію) аплаціць пашу і сена купіць ён не зможа. А, значыць, прыйдзецца развітацца з гаспадаркай. Але, тады голад. Чуеце, голад! І падпісваюць. На маю прапанову (а гаварыла я з дзесяткам гаспадароў) звярнуцца за абаронай да прадстаўнікоў закона пужаліся: "Маўчы, хто нас калі абараняў? Будзе яшчэ горш, а так адкупімся цялём ды малаком і неяк пражывём. Абы вайны не было". І як растлумачыць, што горш будзе і без вайны? Следам за цялём забяруць і ўсё астатняе. Так ужо было. Але ёсць розніца. Калі раскулачвалі "кулакоў", у сялян былі аруды хлеба. "Продотрядам" было што ўзяць. Зараз у вёсцы хлеба няма. Засталося толькі апошнюю кароўку з хлева вывесці. Толькі ці надоўга яе хопіць? Падумайце.

Калгаснік ужо не здольны сябе абараніць. Самае вялікае, на што ён здольны, гэта "бастануць" гадзіну-другую, патрабуючы заробак-падачку. Ды і то тыя, у каго дзеці есці просяць, іх трэба карміць, для сябе калгаснік не патрабаваў бы, але бацькоўскі інстынкт мацнейшы за страх і адчай. Пастаўленыя ва ўмовы, калі іх жыццё залежыць цалкам ад надзела зямлі і гаспадаркі, якія ў іх могуць адняць у любы момант, згодна такіх вось "дамоў", у іх няма іншага высця як трываць і чакаць лепшых часоў. Тым больш, што такія часы наступаюць заўжды... перад чарговымі выбарамі. Тут ужо абавязкова ўспомняць кожнага, скрынку-скарбонку для галасоў пад нос паднясуць, пакажуць што і дзе закрэсліць, куды ўпіхнуць. З правам "выбару" на вёсцы ўсё ўпарадку.

Таму я звяртаюся да вас, усіх, каго корміць знясіленая, замардаваная, бяспраўная паміраючая вёска. Дарэчы, капніце і свае ўласныя карані, можа вы таксама родам адтуль, з вёскі. Яна падае SOS усім нам і вам. Трэба спыніць дэспатызм і самадурства ў адносінах да вёскі. Мы ўсе павінны запатрабаваць выконваць правы чалавека ў адносінах да вяскоўцаў. Як і ўсе грамадзяне РБ, яны таксама маюць права на годнае жыццё (Арт.21 Канстытуцыі РБ). Паколькі праца на зямлі – адзіная магчымасць для іх жыць годна, ніхто не мае права пазбаўляць селяніна надзела (ворыва, пашы, сенакосу).Дзяржава павінна гарантаваць права ўласнасці і яе недатыкальнасці (Арт.44). Кожнае парушэнне закону павінна быць спынена і вінаваты прыцягнены да адказнасці. А самае галоўнае, усе пытанні вёскі павінны вырашацца не шляхам "кроў з носу", а з дапамогай эканамічных законаў, якія і дапамогуць уратаваць вёску ад канчатковага знішчэння. Згіне вёска – загіне і дзяржава. Што будзеце есці галодныя? А да гэтага ўжо адзін крок. І часу ў запасе няма.

Дарэчы, ужо спяваюць новую песню "Поставьте памятник деревне". Не чулі? Ёсць ужо і такая. Як жа будзе выглядаць гэты помнік? Можа дойлідаў зацікавіць, якім гэты помнік бачу я?

Хата з вокнамі, забітымі накрыж, а побач студня з замшэлым зрубам і жоравам з абарваным вядром і высокае сухое дрэва, на якім буслінае гняздо, а з таго гнязда звісае забітая птушка... сімвал Беларусі.

***Сафія Табола, Шаркоўшчынскі раён***

# ЖУДАСНЫ КАНСЕРВАТЫЗМ ВЁСКІ

**Беларусы як нацыя выйшлі з вёскі. Карані кожнага гараджаніна ўжо ў другім-трэцім калене сягаюць туды. І пры гэтым гараджаніну усё цяжэй разумець вёску. Шмат якія вясковыя з'явы і погляды выклікаюць ягонае здзіўленне.**

Па-першае, не можа не здзіўляць жудасны кансерватызм вёскі. Не раз высакародныя памкненні навучыць вяскоўцаў больш дасканала і прадукцыйна гаспадарыць на зямлі разбіваліся аб фразу: "Як нашы дзяды і бацькі рабілі, так і мы будзем рабіць". Навошта ж адмаўляць прагрэс?.

Па-другое, адносіны паміж людзьмі там застаюцца на першабытным узроўні. Як аксіёма, прымаецца падначаленне жанчыны мужу, а малодшых – старэйшым.

Многія людзі пенсійнага веку перакананыя, што ведаюць усё на свеце. Нават калі распавядаюць ім пра апошнія метады геннай інжынерыі ці біятэхналогіі, можна ў адказ пачуць: "Ды я гэта ведаю, я столькі гадоў пражыла!"

Што мне яшчэ не падабаецца тут, дык гэта нежаданне актыўна ў нечым удзельнічаць ці ўводзіць нешта новае. Вясковыя прынцыпы "мая хата з краю", "абы не было вайны" і г.д. прыводзяць да таго, што прагрэс адчуваецца тут даволі слаба. Вяскоўцы недалёка адышлі ад XIX ст., асабліва ў сваім светапоглядзе, ды і ў матэрыяльнай культуры. З новага – асфальтаваныя дарогі (не скрозь), калгасныя крамы, калгасная састарэлая тэхніка на палях, электрычнасць ды рэдкія цагляныя дамы.

Адна з прычынаў беднасці вяскоўцаў – малаадукаванасць. Вышэйшую адукацыю маюць толькі старшыні калгасаў, некаторыя спецыялісты ды настаўнікі. Чалавек з больш-менш добрай адукацыяй імкнецца ў горад, дзе прасцей рэалізаваць свае здольнасці і веды. У вёсцы застаюцца людзі з пачатковай адукацыяй.

Узровень мыслення чалавека ў сучасным грамадстве, ягоны кругагляд (у тым ліку палітычны) і светапогляд проста прапарцыйна залежыць ад адукаванасці. Малаадукаваны чалавек разважае вузка лакальна, абстрактнае мысленне ў яго на досыць нізкім узроўні, і ён не можа палічыць свой крок наперад. Адсюль – страх перад усім новым, страх зрабіць нешта, што выходзіць за межы прынятых нормаў. Адзінае жаданне – захаваць усё як ёсць, як бы дрэнна не было, бо ўжо маеш досвед прыстасавацца да гэткай рэчаіснасці.

Аднак менавіта гэткі кансерватызм паспрыяў выжыванню беларусаў як народнасці. Яго не зламалі ні палякі паланізацыяй, ні расійцы русіфікацыяй: беларусы як былі, так і засталіся "тутэйшымі". Дзякуючы кансерватызму, у нашай культуры захаваліся паганскія традыцыі, фальклор. Так што бабуля надвое варажыла.

Апрача кансерватызму, варта вызначыць, што кола зносінаў у сельскай мясцовасці часта абмяжоўваецца жыхарамі адной вёскі. (Чаго шукаць у суседняй вёсцы, калі і ў сваёй тое ж самае?) Гэта замінае пранікненню туды новых ідэяў і з'яваў, якія даходзяць з вялізным спазненнем і, пераламляючыся кансерватыўнымі традыцыямі, пазбаўляюцца свайго першапачатковага сэнсу. Сродкі масавай інфармацыі прыйшлі ў вёску досыць позна і не набылі тут такога пашырэння, як у горадзе. Акрамя таго, сёння ўсе значныя СМІ, даступныя тутака, выказваюць афіцыйную пазіцыю. Незалежныя СМІ за такі кароткі час не змаглі значна паўплываць на свядомасць вяскоўца.

Калгас – галоўная бяда вяскоўцаў, хоць самі яны гэтага не разумеюць. Выйсці з яго, забраўшы свой загон, нялёгка. Дый няма каму, бо за гады савецкай улады развучыліся працаваць людзі на сябе. Працуюць абы-як: аруць, абы ўзараць, сеюць, абы сеяць. Крадуць усе, ад старшыні да апошняга вартаўніка, прычым не хаваюцца, бо ніхто не закладзе – кругавая парука. Вось і атрымліваецца, што ў калгасы ўкладваюцца вялізарныя сродкі, а аддача вельмі малая. І пакуль не з'явіцца гаспадар на зямлі, бессэнсоўна спадзявацца на дабрабыт у вёсцы. Усе разумеюць, што пенсіі і калгасныя заробкі – мізерныя і будуць такімі, пакуль у краіне не пачнуцца змены, ліквідацыя калгасаў. Аднак калі размова перакідваецца на калгасы, вяскоўцы гарою ўстаюць за іх.

Вёска співаецца. Адпачыць такім чынам пасля працоўнага дня лічыцца калі не абавязкам, дык нормай. Гоняць самагонку. Калі задацца пытаннем: "Чаму п'юць?" – дык мне адказ бачыцца ў адсутнасці заняткаў, якія маглі б зацікавіць чалавека і дапамагчы яму з карысцю для цела і душы бавіць свой вольны час. Маладых вяскоўцаў ужо немагчыма перавыхаваць, яны пайшлі па слядах сваіх бацькоў. Трэба хоць наступнае пакаленне ўратаваць. Яшчэ адна праблема беларускай вёскі – хуткае старэнне. Ёсць цэлыя вёскі, дзе ўсе жыхары – пенсійнага веку. Праз дзесятак-другі гадоў там не застанецца ніводнага чалавека. Часам ідзеш у такой вёсцы позняй восенню, або ўзімку і здаецца, што яны ўжо мёртвыя – настолькі цяжка заўважыць тут прыкметы жыцця. Моладзь усімі сіламі імкнецца з'ехаць у горад, не жадаючы працаваць за мізерныя заробкі. Хоць далёка не ўсе парываюць з вёскай зусім. Нехта прыязджае адпачываць, а большасць – працаваць, каб забяспечыць сябе харчам на зіму. Гэтыя людзі так да канца і ня робяцца гараджанамі, але і вяскоўцамі перастаюць быць. Яны нясуць гарадскую культуру ў вёску і вясковую псіхалогію ў горад.

Для некаторых маладых гараджанаў вёска робіцца ўжо экзатычнай з'явай, за якой можна назіраць, але яе сэнс цяжка спасцігнуць. Горад на гэтых людзей аказвае вырашальны ўплыў, і, хто ведае, можа мы станем калі-небудзь гарадской нацыяй.

***Зміцер Мацвейчык***

# СВЕТ ВАКОЛ НАС

## *(Беларусь: хроніка падзей і фактаў)*

Кіраўнік КНГ АБСЭ ў Беларусі прапаноўвае прадстаўніку АБСЭ па пытаньнях прэсы Фраймуту Дувэ сустрэцца ў Вене з прадстаўнікамі афіцыйных беларускіх СМІ, - паведамляе «Хартыя-97» са спасылкай на крыніцы ў АБСЭ. На сустрэчу Дувэ з журналістамі незалежных беларускіх мэдыяў, заплянаваную на 30 траўня, Вік прапаноўвае запрасіць і карэспандэнтаў электронных і друкаваных СМІ, падкантрольных дзяржаве. Нагадаем, што ў красавіку сп. Дувэ адмяніў свой візыт у Менск пасьля таго, як улады Беларусі не далі візы ягонай дарадцы, якая таксама займаецца пытаньнямі свабоды слова.

✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧

Улады Беларусі могуць паставіць пытаньне пра знаходжаньне на тэрыторыі краіны кіраўніка Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ ў Менску амбасадара Ганса-Георга Віка. Пра гэта падчас брыфінгу 17 траўня заявіў міністар замежных справаў краіны Міхаіл Хвастоў. Дзейнасьць сп. Віка ў Беларусі «дэструктыўная» й «скіраваная на кансалідацыю намаганьняў для дэстабілізацыі становішча ў краіне», - падкрэсьліў Хвастоў. Паводле міністра, КНГ працягвае спрыяць падрыхтоўцы назіральнікаў на прэзыдэнцкія выбары, не зважаючы на тое, што беларускае заканадаўства забараняе любое «вонкавае фінансаваньне падрыхтоўкі й правядзеньня выбараў». Іншыя падрабязнасьці аб брыфінгу слухайце цягам сёньняшняй праграмы.

✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧

Кансультацыйна-назіральная група (КНГ) АБСЭ ў Беларусі пакуль адмаўляецца камэнтаваць заяву міністра замежных справаў Беларусі Міхаіла Хвастова аб магчымай высылцы кіраўніка КНГ амбасадара Ганса-Георга Віка да сканчэньня кансультацыяў зь дзейным старшынём АБСЭ Мірчам Джэанам, прызначаных на 18 траўня ў Вене, - гаворыцца ў адмысловай заяве дыпляматычнага прадстаўніцтва. Палітычны дарадца КНГ Эндру Карпэнтэр заявіў толькі, што КНГ ня ўносіла зьменаў у сваю пазыцыю, агучаную раней. Гэтак, ён падкрэсьліў, што дапамога ў падрыхтоўцы назіральнікаў на выбары не пярэчыць беларускаму заканадаўству ці мандату КНГ АБСЭ.

✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧

Палітычная эліта й бізнэсовыя колы Расеі зацікаўлены ў станаўленьні дэмакратыі ў Беларусі, - такое меркаваньне выказаў дэпутат расейскай Дзяржлумы ад фракцыі «Саюз правых сіл» Вадзім Бондар, які днямі знаходзіўся ў Менску. Ён сустрэўся з кіраўніцтвам АГП, партыі БНФ, БСДП (НГ) і Беларускай партыі працы. Адказваючы на пытаньне пра падтрымку Расеяй нейкага кандыдата ў прэзыдэнты, В.Бондар падкрэсьліў, што ягоная краіна ня мае права ўмешвацца ў справы іншай дзяржавы. Заяўляючы ж пра стаўленьне расейцаў, у тым ліку, бізнэсмэнаў, да беларускай сытуацыі, расейскі дэпутат падкрэсьліў, што расейскі бізнэс цяпер з большай ахвотаю ідзе на Ўкраіну, дзе ёсьць мінімальныя гарантыі для прыватнага прадпрымальніцтва. «Рабіць інвэстыцыі ў Беларусі небясьпечна», - заявіў Вадзім Бондар.

✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧

Беларускія дыплёмы аб вышэйшай адукацыі праз 10 год будуць прызнавацца ў Эўропе, - лічыць міністар навукі й адукацыі Васіль Стражаў. Да гэтага часу Беларусь пяройдзе на двохузроўневую сыстэму адукацыі - з 12-гадовай сярэдняй школай. Гэтая ўмова разам з правядзеньнем тэставаньня мінімальных ведаў студэнтаў зьяўляюцца неабходнымі для прызнаньня беларускіх дыплёмаў за мяжою, - падкрэсьліў міністар адукацыі.

Міжпартыйны цэнтар вылучэньня прадстаўнікоў партыяў у склад выбарчых камісіяў на будучых прэзыдэнцкіх выбарах створаны ў Менску. У ягоны склад увайшлі прадстаўнікі дзесяці найбуйнейшых палітычных партыяў, сярод якіх АГП, БСДП (НГ), БНФ, «Надзея», партыі зялёных. Неабходнасьць стварэньня міжпартыйнага цэнтру тлумачыцца досьведам, з якога вынікае, што партыі паасобку ня могуць забясьпечыць прысутнасьці сваіх сяброў у складзе усіх выбарчых камісіяў.

✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧

Грамадзянін Ізраілю, абвінавачаны ў парушэньні правілаў знаходжаньня замежных грамадзянаў у Беларусі, будзе дэпартаваны з нашай краіны. Народжаны ў Беларусі Ігар Рыжыкаў прыехаў у Віцебск да старой маці, але своечасова не працягнуў тэрмін дзеяньня гасьцявой візы. За гэта яго прыцягнулі да адміністратыўнай адказнасьці. Шэраг грамадзкіх арганізацыяў Віцебску правялі пікет у падтрымку І.Рыжыкава, на што органы пашпартна-візавай службы адрэагавалі па-свойму. Знаходжаньне Рыжыкава ў сьледчым ізалятары з 28 лютага яны вытлумачылі адсутнасьцю сродкаў на дэпартацыю - $600. Ізраільская амбасада, куды зьвярталіся па грошы, змагла выдаткаваць толькі $100.

✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧ ✧

Дзяржаўны падатковы камітэт рэкамэндуе мяняць тактыку барацьбы з эканамічнымі злачынствамі. ДПК цьвердзіць, што нядобрасумленныя падаткаплатнікі выкарыстоўваюць усё больш вынаходлівыя бізнэс-схемы, у аснове якіх ляжыць рух фінасавых плыняў праз афшорныя кампаніі й выкарыстаньне сучасных кампутарных тэхналёгіяў. Толькі на першы квартал гэтага году падатковыя органы ўжылі супраць парушальнікаў заканадаўства санкцыяў на суму амаль 13 млрд руб.

«Радыё Рацыя», «Народная воля», «Пагоня», «Витебский курьер», «Кур'ер»

# ВЯСКОВЫЯ ГІСТОРЫІ

## Малочныя рэкі

Ужо на пенсіі некалькі гадоў працаваў дзядзька Пётра малаказборшчыкам. Угаварылі ў канторы, асабліва старшыня. Малады яшчэ чалавек, які надзіва прыжыўся ў калгасе, знайшоў да ўсіх падыход. І, як прыкмячалі вяскоўцы, пакуль што з'язджаць нікуды не збіраўся. Бо нідзе на старане не будаваўся, нікуды не гнаў калгасныя машыны з лесам і іншымі будматэрыяламі. Калгасныя будаўнікі толькі добра адрамантавалі, аправілі яму фінскі домік, які раней у тутэйшых шматлікіх старшынь быў часовым жыллём, як бы гатэлем у чаканні лепшай долі.



Ды і праца малаказборшчыка асаблівых высілкаў не патрабавала. Раніцой запрагаў Пётра сваю кабылу, ставіў у вазок некалькі пустых малочных біклаг і аб'язджаў у сваіх Нырцах, суседных Аўсяніках двары, дзе людзі трымалі кароў. Збіраў малако. А ўжо ў яго дварышча пазней заязджаў малакавоз, у які і пераліваўся з біклаг дзённы "узятак". Не такі і вялікі, але ж ўсё калгасу надбаўка. Ды і людзі ахвотна здавалі малако, бо разлік за яго своечасовы, гэта не зарплата ўвосень за вясну. Праўда, летам, калі, здавалася б, малака павінна быць больш, яго нават крыху менела ў біклагах малаказборшчыка. Адно, прыязджалі з гарадоў дзеці-унукі. Другое, дачнікі куплялі па цэнах, да якіх прызвычаіліся ў горадзе. І тут ніякія ўгаворы ці нават пагрозы накшталт зразання сенакосаў не маглі даць рады. Жывая капейчына, яна і на вёсцы цаніцца стала вышэй за ўсё.

Дзядзьку плацілі і за работу, і за тое, што выкарыстоўваў свайго каня. Няшмат, але ж таксама дадатак, прычым ужо незалежны ад жонкі. Тая ж абедзве пенсіі, як і іншыя грошы, хуценька падціскала пад сябе. А так ён ужо гэтай капейцы гаспадар. Зімою, праўда, на вазе ездзіць не так і прыдатна, асабліва калі мароз ці завіруха. Але ж сіл ды і здароўя яшчэ хапала.

Ды потым нечакана скончылася завядзёнка. Не таму, што малака паменела. Палічылі ў канторы, што занадта вялікія на дзядзьку і яго кабылу выдаткі. А малакавоз жа ўсё роўна ў вёску заходзіць. Таму сёння ўжо і дзядзька, і іншыя вяскоўцы раніцой нясуць малако на спецыяльны стол пасярод вёскі. Адтуль яго і забірае малакавознік. Зрэдзь часу калгасная лабарантка бярэ з вёдраў пробы малака, каб вызначыць, якая тлустасць. На сваю Весялуху дзядзька ніколі не наракаў, але як былы малаказборшчык з пэўнай доляй рэўнасці параўноўваў вынікі аналізаў.

І неяк пайшлі размовы, што аналіз паказвае вельмі высокую тлустасць малака ў каровы іх аднавяскоўца Міхала.

Асабліва дзівілася былая гаспадыня каровы, якая за год да гэтага прадала сваю рагулю ў Нырцы. "І чым ён яё толькі корміць? У мяне ж яна была, дык падоіш - вяршкі цяжка сабраць. А ў яго такая тлустасць! Во, прадала, лепш бы сама трымала..."

Але шчыра сказаць, былі ў аднавяскоўцаў пэўныя падазрэнні наконт "выключнасці" Міхалавай каровы.

Калі ж пры чарговым аналізе тлустасць здадзенага ім малака сягнула за лічбу 6 - падазрэнні перараслі ва ўпэўненасць. Крадзе!

Справа ў тым, што Міхал працуе вартаўніком на малочна-таварнай ферме. І вось аднойчы сустракае Пётра Міхала на вуліцы. Павіталіся, пагаманілі. Але ж Пётра карціць выказацца:

- Ну, і як твая кароўка: можа ўжо маслам пачала даіцца?

- А твая якая справа, даглядай лепш сваю.

- Дурань ты дурань. Ты ж крадзі, але ўмеючы. Не чэрпай вяршкоў і не здавай іх адразу. Дзе ж хто такую тлустасць бачыў. Пагарыш калі-небудзь.

Але Міхал толькі адмахнуўся.

Пагарэць ён не пагарэў. Ды толькі на ферме халадзільнік, дзе адстойвалася малако, сталі замыкаць на яшчэ адзін, новы замок.

***Алесь Касцень***

Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны

Рэдактар: Міхал Гіль

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84. E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на абсталяванні ВАГА «Фонд імя Л.Сапегі»